


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Аднойлена ў 1997 годзе.*

№ 27 (108). 1 — 7 ліпеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 25.000 руб.


## УСЕ — НА СЕНА!

**Менавіта так трэба разумець распараджэнне №135 слонімскіх уладаў аб аказанні дапамогі калгасам і саўгасам у нарыхтоўцы кармоў.**

СЛОНИМСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
СЛОНИМСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

РАСПОРЯЖЕНИЕ

от 21.05. [illegible] 1999г. № 135-р/98-р

г.Слоним

Об оказании помощи колхозам, совхозам и другим сельскохозяйственным предприятиям района в заготовке травянистых кормов

1.В связи с создавшимися неблагоприятными погодными условиями, которые привели к недобору трав на сельскохозяйственных угодиях и поставившими под угрозу срыва выполнение планов заготовки и производства травянистых кормов, руководителям промышленных предприятий, всех организаций города и района обеспечить привлечение люд-

Здавалася, адышлі ў мінулае тыя савецкія часы, калі, па разнарадцы гаркама партыі камуністаў, кожнае прадпрыемства ці арганізацыя абавязаны былі ўлетку накасіць пэўную колькасць травы для калгаснага статка. Высвятляецца, што — не. Убухаўшы ў аграрны сектар трыльёны рублёў бюджэтных сродкаў, працаўнікі вёскі не ўстане самі назапасіць на зіму кармоў для грамадскага статка. Таму, каб не даць памерці з голаду беднай рагулі, улады заклікаюць выйсці шчыльнымі радамі ўсё працаздольнае гарадское насельніцтва. З гэтай нагоды гарадскі і раённы выканкамы давялі заданні да кожнага прадпрыемства, арганізацыі і ўстановы. Напрыклад, камвольна-прадзільная фабрыка павінна накасіць 830 тон зялёнай масы, настаўнікі — 760, медыкі — 500, работнікі аддзела культуры — 50 тон травы. Ніхто не застаўся без увагі. У тым ліку і міліцыя (15 тон), ваенны гандаль (10 тон), работнікі банкаў (90 тон) і інш. Нават ПП Гіль Р.П. абавязаны выйсці на сенажаць і нагрэбці 40 тон травы. Дарэчы, заданні атрымалі і іншыя слонімскія прыватныя фірмы: МП "Нёман", ТАА "Тэлкон", ТАА "Зодчы". Павышаныя вытворчыя абавязацельствы ўзялі на сябе чыноўнікі выканкамаў: гарвыканкам упэўнены, што нарыхтуе 70 тон "зялёнкі", а райвыканкам — 80 тон. Нашы калегі са "Слонімскага весніка" таксама не застануцца ўбаку і прымуць удзел у запланаванай акцыі. На іх рахунак запісана шэсць тон кармоў. "Газета Слонімская" чамусьці не ўнесена ў спіс нарыхтоўшчыкаў, таму нам застаецца толькі шырока інфармаваць грамадскасць, як будзе праходзіць мерапрыемства па выратаванню жывёлагадоўлі.

Увогуле, гараджане мусяць назапасіць 7834 тоны зялёнай масы. За кожную здадзеную тону травы калгасы абяцаюць заплаціць па 1,5 мільёна рублёў, а кіраўніцтва прадпрыемстваў за выхад работніка на сенажаць абавязана выплаціць 50-75 % сярэдняга заробку па месцы асноўнай працы.

**Анатоль МІРСКІ**



Фота IREX/ProMedia

### ПРАШУ СЛОВА

## "МНЕ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ СОРАМНА..."

**На вышэйшым дзяржаўным узроўні ўжо даўно вядзецца падрыхтоўчая работа па аб'яднанню Беларусі і Расіі ў адзіную дзяржаву. Здавалася б, я павінна адной з першых вітаць гэтую ініцыятыву і гучней за ўсіх пляскаць у далоні, бо Расія — радзіма маіх продкаў па бацькоўскай лініі, і ўсё расійскае я бязмежна люблю з самага дзяцінства.**

Але чаму так трывожна на душы? Чаму розум і сэрца адмаўляюцца станоўча ўспрымаць ідэю саюзнай дзяржавы?

Мо таму, што гэтак жа, як Расію, я горача люблю і Беларусь: цікаўлюся яе тысячагадовай гісторыяй, дзе кожная старонка — пакутніцкая або велічная — надае гонар беларускай нацыі, дазваляе ўсведамляць моц, працавітасць, годнасць, мужнасць, таленавітасць беларускага народа. Нездарма ж і Беларусь у рэшце рэшт дамаглася запаветнай мэты — стала суверэннай незалежнай дзяржавай.

З нагоды гэтай ашаламляльна-радаснай падзеі многія ў тыя дні з палёгкай уздыхнулі і сказалі самі сабе: "Усё браткі! Нарэшце надышоў час нам, беларусам, станавіцца гаспадарамі ў сваёй краіне, ладзіць самастойнае жыццё, будаваць заможную, дэмакратычна-прававую дзяржаву". Ды марнымі былі спадзяванні на самастойнае развіццё, бо, аказваецца, нам нельга пражыць без Расіі. Эстонія, напрыклад, жыве, а мы, небаракі, не можам. Больш таго, высвятляецца, што Беларусі проста наканавана нябеснымі сіламі быць у саюзе з велізарнай суседняй дзяржавай і разам з ёю караскацца з багны крызісу.

Колькі ўхваляючых на карысць саюзу з Расіяй апошнім часам прагучала прамоў па тэлебачанні і радыё! У афіцыйным друку амаль у кожнай публікацыі падкрэслівацца, як добра суразмоўцы ставяцца да дамоўленасці аб утварэнні саюзнай дзяржавы. Мне цяжка зразумець гэтых паважаных людзей, бо я лічу, што найвялікшымі каштоўнасцямі на свеце з'яўляюцца родная мова, свабода і незалежнасць сваёй краіны. Гэтыя святыя ісціны выходзяць ад Бога, і Бог уладарыць імі. Таму не варта іх аспрэчваць і ісці насуперак. Для таго мы і здабылі, з Божага благаслаўлення, суверэнітэт праз столькі стагоддзяў, каб беларуская нацыя, стаўшы квітнеючай краінай, пакінула свой непаўторны, адметны след у Сусвеце, а не знікла ў розных саюзах ды з'яднаных дзяржавах, згубіўшы аснову народа — сваю мову.

Вось такое маё меркаванне. Я чамусьці ўпэўнена, што мне ніколі не будзе сорамна за маю грамадзянскую пазіцыю, якую я абрала па лёсавызначальнаму для беларускага народа пытанню.

**Клаўдзія ШЧАРБАКОВА**

### НАВІНЫ

## Проблемы с бензином

**В Слониме обострилась проблема с бензином. В чем дело? Директор Слонимской нефтебазы Михаил Соловей корреспонденту "ГС" пояснил эту ситуацию так.**

— На прошлой неделе я был на совещании в Щучине, — сказал Михаил Павлович. — На нём присутствовали представители министерств и облисполкома. Шел разговор и о бензине. Скажу честно, до октября в Слониме ожидаются трудности с обеспечением топливом. Бензин пойдет в колхозы и совхозы на уборку урожая. Что касается повышения цен на топливо, то оно, видимо, предвидится в июле, потому что повышаются цены на нефть. Закупать бензин по договорным ценам нам не разрешают, — сказал Михаил Соловей.

Что ж, владельцам автомашин теперь чаще придется прибегать к услугам коммерческих автозаправок.

**Сергей ЧИГРИН**

## Сустрэча з кардыналам

**У панядзелак, 28 чэрвеня, кардынал Беларусі Казімір Свёнтак наведаў каталіцкіх вернікаў вёскі Старая Перавалока Слонімскага раёна.**

На сустрэчу з ім сабраліся вернікі і з суседніх вёсак. Яны скардзіліся кардыналу, што ў навакольных вёсках няма касцёла, а прыходзіцца хадзіць і ездзіць ажно ў Ружаны. Госць таксама адказаў на іншыя пытанні і просьбы каталікоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Штраф за незнание языка

**Палата представителей Национального собрания Беларуси одобрила в первом чтении дополнения в Кодекс Республики Беларусь об административных правонарушениях, устанавливающие ответственность за нарушения законодательства о языках.**

Так, в частности, кодекс предполагается дополнить статьей 172-2, согласно которой «публичное порочение государственных и других национальных языков», а также «создание препятствий и ограничений в пользовании ими» влечет наложение штрафа на граждан — от 5 до 10 минимальных заработных плат (МЗП), а на должностных лиц — от 10 до 15 МЗП. Этой же статьей предусмотрено наложение штрафных санкций за отказ должностного лица принять и рассмотреть обращение гражданина на белорусском или русском языке со ссылкой на незнание языка обращения. Подобные действия должны наказываться штрафом от 5 до 10 МЗП.

## Будуць рэстаўрыраваць Жыровіцкі манастыр

**Некалькі інстытутаў Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва нашай рэспублікі атрымалі заданне распрацаваць праекты рэканструкцыі Свята-Успенскага манастырскага комплексу ў Жыровічах.**

Гэты факт карэспандэнту "ГС" падцвердзіў епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый.

Ён сказаў, што Жыровічы з'яўляюцца духоўным цэнтрам праваслаўнай Беларусі. Успенскі сабор і галоўны манастырскі комплекс патрабуюць архітэктурных даследаванняў і аб'ёму інжынерных работ. Сабор дае трэшчыны, цячэ дах, неабходна сур'ёзнае добраўпарадкаванне манастырскай тэрыторыі.

Праграма рэстаўрацыі нашай праваслаўнай святыні прымеркавана да святкавання 2000-годдзя Раства Хрыстова.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Адстраляўся

**У панядзелак, 28 чэрвеня, асабістаму складу Мастоўскага ГРАУС былі прадстаўлены новы начальнік — падпалкоўнік Іван Анатольевіч Здановіч.**

Раней ён працаваў начальнікам Скідзельскага ГРАУС. Ён змяніў на гэтай пасадзе падпалкоўніка Мечыслава Улана. Апошні "вызначыўся" тым, што ноччу на Вялікдзень на добрым падпітку адкрыў страляніну з табельнага пісталета.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### ЗДАРЭННІ

## Выбух на палігоне

**Раніцай 25 чэрвеня на Абуз-Лясноўскім вучэбным палігоне, што ў Баранавіцкім раёне, адбылося надзвычайнае здарэнне, падчас якога пацярпелі вайскоўцы слонімскай 11-й механізаванай брыгады.**

У той дзень на палігоне праходзіла планавая ачыстка тэрыторыі ад дрэў і хмызняку. Па звестках агенцтва БелаПАН, у 9.50 раніцы група слонімскіх вайскоўцаў натрапіла на тры снарады. Калі салдаты паспрабавалі закапаць гэтыя боепрыпасы, адзін з вайскоўцаў выпадкова стукнуў рыдлёўкай па снараду. Адбыўся выбух. Васемнаццаць хлопцаў атрымалі раненні.

Па словах намесніка камандзіра брыгады палкоўніка Анатоля Кудэркі, параненыя салдаты знаходзяцца ў ваенным шпіталі ў Снове Нясвіжскага раёна. Некалькі чалавек з баранавіцкіх бальніц 28 чэрвеня павінны былі перавесці ў мінскія лячэбныя ўстановы. Палкоўнік Кудэрка сцвярджае, што стан іх здароўя здавальняючы. Сярод параненых ёсць адзін салдат, які прызываўся ў войска са Слонімшчыны.

**Сяргей ЁРШ**

## Затрыманы гандляр зброяй

**Супрацоўнікі Слонімскага аддзялення ўпраўлення КДБ сумесна з Камітэтам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МЧС РБ па Гродзенскай вобласці затрымалі слонімца Л., які займаўся гандлем зброі.**

У яго доме і на працы знойдзена некалькі адзінак баявой агнястрэльнай зброі і шмат боепрыпасаў. Гандляр быў затрыманы ў той час, калі спрабаваў прадаць зброю літоўцам. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

## Знікла "Аўдзі-100"

**З прыватнага падворка жыхара Рышчыц невядомыя ўгналі "Аўдзі-100" чырвонага колеру.**

Цікава тое, што машына знікла ў той час, калі яе ўладальнік сядзеў дома і глядзеў тэлевізар.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Прычына трагедыі — купанне

**На дзятлаўскіх могілках з'явіліся дзве свежыя магілы. Тут пахавалі жыхароў райцэнтра, якія загінулі падчас купання.**

Малады мужчына нырнуў на мясцовым возеры і моцна стукнуўся галавой аб нешта цвёрдае. Яго лячылі ў рэанімацыйным аддзяленні райбальніцы, выклікалі кансультанта з Мінска, але дапамагчы не змаглі.

Такі ж лёс напаткаў і 18-гадовага А. Ён вучыўся ў Лідзе ў музычным вучылішчы. Падчас купання пад вадою юнак моцна траўміраваў галаву. Выратаваць яго не ўдалося.

## Забойца затрыманы

**Каля вёскі Вензавец Дзятлаўскага раёна знойдзены труп мужчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці.**

Праз тры дні міліцыя затрымала жыхара вёскі Ляўновічы, які падазраецца ў забойстве.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

З ЗАЛЫ СУДА

# СЯМЕЙНАЯ ПАСТКА

Андрэй грукнуў дзвярыма і пайшоў у асеннюю слоту. Імжэў дождж, змяркалася, але Надзя бачыла, як ён абмінаў лужыны, як на дарожнай сумцы развітальным агеньчыкам свяціўся мокры кляновы ліст. На душы яе таксама была асенняя слота. Яна пазірала ўслед чалавеку, які быў бацькам яе дзяцей, і каб хоць кропелька жалю варухнулася ў душы!.. Калі і было што добрае, то даўно выцекла слязамі крыўды. І як кволы праменьчык праз хмары, прарвалася думка:

— Усё... Цяпер ён ужо не будзе з мяне здзекавацца. Пайшоў назаўсёды. Добра, што падала на развод, што дабілася, каб судом выселілі з кватэры.

Неяк і не верылася, што некалі было шчасце — светлае і чыстае, як майская раніца. Як пажаніліся, жылі ў Гродне. Потым пераехалі ў вёску да маці, а яшчэ праз некаторы час ім далі кватэру ад завода, бо абое ўладкаваліся туды працаваць. Дзесяць гадоў таму назад нарадзіўся сынок, а пазней лёс паслаў ім дачушку.

Можа ўсё было б добра і да гэтага часу, калі б Андрэй не прызвычаіўся да чаркі. Выпіўшы, станавіўся злы і агрэсіўны. Яна цярпела, колькі магла, потым падала на развод. За сістэматычныя прагулы Андрэя звольнілі з работы. А цяпер вось і з кватэры выселілі.

Ён паехаў у другую вобласць да бацькоў, але і там уседзець не мог, бо праўду кажуць людзі: ад сябе не ўцячэш. Алкагалізм, нібы іржа жалеза, раз'ядаў цела і душу. І зноў яго пацягнула на Дзятлаўшчыну. Пераконваў сябе і іншых, што хоча ўбачыць дзяцей, што засумаваў па іх, а на самай справе яму проста не сядзелася на месцы. Ні работы, ні сям'і, ні дома. Адно жаданне з дня ў дзень: выпіць. А потым пахмяліцца.

Калі ён зноў пераступіў парог кватэры, Надзя аднеслася да гэтага спакойна. Час крыху зглядзіў крыўду. Думалася, што можа ўзяўся за розум, можа і ў яе дзетак будзе бацька, як у іншых. Але гэта думка патухла, як запалка на ветры.

Аднойчы лютаўскай раніцай прыйшла з начной змены і ўбачыла, што мужгосць п'яны. Ён пачаў прад'яўляць правы на кватэру, якая яму ўжо даўно не належала, прыгразіў: "Буду рабіць усё, што захочацца". І адразу ж ад слоў перайшоў да справы. Ён схапіў Надзю за валасы і пачаў тузаць, біў па галаве, па твары. Дзеці, якія за гэты час, што не было бацькі, адвыклі ад дзікіх сцэн і боек, спалохаліся. Сын пабег шукаць тэлефон, каб пазваніць у міліцыю.

Андрэй уцёк. З'явіўся толькі вечарам.

Заўтра ўсё пачалося спачатку: Андрэй пайшоў з дому і неўзабаве вярнуўся з бутэлькай віна. Выпіў і зноў узяўся за сваё: папрокі, пагрозы, брудная лаянка. Сын пабег выклікаць міліцыю. Дэбашыр уцёк.

Апоўдні ён з'явіўся п'яны, ледзь трымаўся на нагах. Аднак хапіла сілы, каб зноў кінуцца з кулакамі на жанчыну. Піхнуў яе ў грудзі, а калі тая ўпала, пачаў біць нагамі. Сын выклікаў міліцыю, але пакуль міліцыянеры прыехалі, бацькі і след прастыў.

Надзя ўжо больш не рызыкавала. Яна сабрала дзяцей і разам з імі паехала ў вёску да маці, бо начаваць пад адной страхой з такім чалавекам баялася. Назаўтра яна сама звярнулася ў міліцыю.

Спецыяльная медыцынская камісія для правядзення наркалагічных экспертыз Слонімскага псіханеўралагічнага дыспансера дала заключэнне, што Андрэй з'яўляецца хранічным алкаголікам. Схільны да канфліктаў.

Потым быў суд, які на два гады пазбавіў Андрэя волі. У выпраўленча-працоўнай калоніі прымусова будуць лячыць ад алкагалізму.

Гэта гісторыя канчаецца нібы добра, бо ўсе засталіся жыць. А колькі цяпер выпадкаў, калі гарэлка даводзіць да забойства. Нядаўна за такое злачынства ў Дзятлаве судзілі жанчыну, якая зарэзала мужа-п'яніцу. І хоць у зале суда яна сядзела за металічнай агароджай, пакуты і страху на яе твары не было. Усміхалася, нібы завітала на пасядзелкі да суседкі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НАВІНЫ

## Ордэн знайшоў ветэрана праз 54 гады

**2 ліпеня на ўрачыстым сходзе з нагоды 55-й гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў ветэрану вайны Аляксандру Рубцу будзе ўручаны ордэн Чырвонай Зоркі.**

Аляксандру Мікітавічу 75 гадоў. Ён жыве ў вёсцы Коласава Слонімскага раёна. Загад аб яго ўзнагароджанні ордэнам Чырвонай Зоркі быў аб'яўлены 16 лютага 1945 года. Былога чырвонаармейца 346-га стралковага палка Аляксандра Рубца ўзнагарода шукала 54 гады...

Праца па пошуку невядомых герояў апошняй вайны не спыняецца. Па словах слонімскага ваенкома Аляксандра Купкі, падобныя прыемныя навіны адбываюцца кожны год.

**Сяргей ЁРШ**

## Рэха прэзідэнцкіх выбараў

**Следчыя аддзелы слонімскай і мастоўскай міліцыі працягваюць выклікаць "у якасці сведкаў" тых людзей, якія прымалі актыўны ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах 16 траўня.**

Нядаўна да следчага Андрэя Яўлаша былі выкліканы старшыня Слонімскай рады БНФ "Адраджэнне" Іван Бедка і кіраўнік "Маладога фронту" Алесь Масюк. Яны даведаліся, што праходзяць у якасці сведкаў па справе старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара. Пры гэтым, з Мінска прыйшоў загад выклікаць тых, хто быў затрыманы падчас галасавання 6-16 траўня гэтага года. Цікава, што Іван Бедка ў той час затрыманы не быў, але яго ўсё роўна "запрасілі" у следчы аддзел.

У Мастах у міліцыю былі выкліканы Язэп Палубятка і Міхаіл Гладухаў. Падчас выбараў на іх кватэрах былі ўтвораны выбарчыя ўчасткі. Следчыя, як і ў Слоніме, пыталіся пра фінансаванне і тэхнічнае забеспячэнне выбарчай кампаніі.

**Сяргей ЁРШ, Антон МАКЕЙ**

## Минфин не в состоянии

**Сегодня Министерство финансов не в состоянии обеспечить выплату заработных плат и отпускных пособий бюджетникам.**

Об этом недавно заявил министр финансов Николай Корбут. По его словам, заработная плата и отпускные будут выплачены, но не сразу, а по частям — в течение трех месяцев.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

## Верующих стало больше

**За последние семь лет число религиозных объединений на Гродненщине увеличилось почти в два с половиной раза, а число конфессий возросло с 7 до 17.**

Среди 435 общин подавляющее большинство (399) составляют христианские, в том числе 169 католических, 168 православных и 75 протестантских. Нужды верующих удовлетворяют 160 священников, 127 ксендзов и 92 пресвитера. В области функционируют шесть монастырей и две духовные семинарии. Для сравнения: за послевоенные годы, вплоть до 1977-го, было снято с регистрации 265 религиозных общин и культовых объектов, среди которых 90 костелов и каплиц, 169 церквей и часовен, четыре молитвенных дома протестантов, синагога и лютеранская кирха.

## Эмиссия растет

**В первом полугодии 1999 года объем денежной массы в Беларуси увеличился на 50 триллионов рублей.**

Следует отметить, что утвержденный на 1999 год общий объем денежной эмиссии составляет 35 триллионов рублей. Таким образом, за шесть месяцев этот показатель уже превышен в полтора раза.

**БелаПАН**

## Продукция остается на складах

**В январе-апреле 1999 года 13% промышленных предприятий республики были убыточны.**

Сумма убытков по ним достигла 5,5 триллиона рублей. Рентабельность промышленного производства снизилась до 18,4%. Кроме того, по состоянию на 1 июня 1999 года запасы готовой продукции на складах предприятий достигали 55,9% от среднемесячного объема производства.

## Агиткампания на воде

**Гродненский облисполком принял распоряжение о мерах по предупреждению гибели людей на воде.**

Районным исполкомам, в частности, предложено запретить торговлю спиртным во время проведения культмассовых и других мероприятий в зонах отдыха, прилегающих к водоемам. Запрещено также купание на отдельных водоемах и участках рек, озер, водохранилищ. Согласно распоряжению облисполкома, в местах массового отдыха должны быть установлены рекламные щиты и другая наглядная агитация по вопросам профилактики несчастных случаев на воде и правилам поведения отдыхающих.

**БелаПАН**

## Белорусским предприятиям не хватает валюты

**Долг лечебных учреждений Министерства здравоохранения Беларуси за поставленные энергоресурсы, продукты питания и медикаменты, по состоянию на 1 июня 1999 года, составил два триллиона рублей.**

Начальник управления планирования и экономики Минздрава Клавдия Мовчан заявила, что 700 миллиардов из этой суммы приходятся на долги лечебных учреждений республиканскому производственному объединению «Фармация» за лекарственные средства.

Дефицит валютных средств вызывает нехватку ряда необходимых препаратов зарубежного производства (в частности, для онкологических больных). Доля же отечественных лекарственных средств на фармацевтическом рынке страны остается на низком уровне — около 30% (в Беларуси производится 390 лекарственных форм). Белорусским производителям не хватает валюты для приобретения за рубежом необходимого сырья.

**БелаПАН**

НАШЫ ГОСЦІ

**На мінулым тыдні рэдакцыю "Газеты Слонімскай" наведаў каардынатар праграм Агенства па міжнароднаму развіццю ЗША Роберт Сімпсан і яго жонка, супрацоўніца амерыканскай амбасады ў Беларусі, Хелен Сімпсан (на здымках).**





Яны пазнаёміліся з калектывам рэдакцыі, планамі нашага выдання і Слонімам. У сваю чаргу госці расказалі пра сябе, сваю дзейнасць. Па словах Сімпсанаў, іх візіт у Слонім уваходзіў у праграму экскурсу па Беларусі.

**Б.П.**

ЗДАРЭННІ

## Пажар у Васілевічах

**Нядаўна загарэўся дом у вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна.**

Пенсіянерка Вольга М. спрабавала запаліць печ у нежылым доме. У выніку, узнік пажар. Пажарныя спрацавалі аператыўна — агонь быў хутка ўтаймаваны. Прычына загарання — няспраўная печ.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Рабаванне працягваецца

**Сумная практыка рабавання крамаў Мастоўскага райспажыўгандлю працягваецца.**

Сёлета ўжо здзейснена 13 крадзяжоў. Усе высілкі міліцыі, у тым ліку і засады, не даюць асаблівага поспеху. На сённяшні дзень раскрыты толькі два злачынствы.

**Антон МАКЕЙ**

## Райвыканкам зачынены — усе нарыхтоўваюць сена

**У Мастоўскім раёне актыўна ідзе нарыхтоўка сена. Кожнаму супрацоўніку гарадской установы і арганізацыі належыць нарыхтаваць па 200 кілаграмаў сена.**

У гэтыя дні ў райвыканкаме пуста. Супрацоўнікі накіраваны ў калгасы. Яны, як і раней, заўжды ў першых шарэнгах.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Уточнение

**В предыдущем, 26-ом номере "ГС", в статье "Где деньги" неверно указана дата заседания комиссии горсовета.**

**Нужно читать: "Именно так поставила вопрос депутатская комиссия горсовета по самоуправлению на своем заседании 28.09.98г. Тем не менее, деньги до детей не дошли".**



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 30 чэрвеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 6.800 экз.
Заказ № 1836
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

# ГОРОСКОП

**с 1 по 7 июля**



**ОВЕН**

Не принимайте необдуманных решений, иначе может произойти обострение отношений с коллегами. В семье как никогда все благополучно.



**ТЕЛЕЦ**

3 и 4 - удачные дни для торговых сделок и различных приобретений. Уделите внимание своим детям, возможно они нуждаются в вашей помощи.



**БЛИЗНЕЦЫ**

Стоит хорошо обдумать происходящие дела. Есть риск остаться виноватым в конфликте коллег или друзей. Так что лучше не вмешивайтесь, пускай сами разберутся.



**РАК**

Все начинания на этой неделе будут иметь успешное продолжение. Новое знакомство может здорово изменить вашу жизнь.



**ЛЕВ**

Не перенапрягайтесь на работе. Вы берете на себя слишком много. Это может сказаться на вашем самочувствии. Можете рассчитывать на поддержку коллег.



**ДЕВА**

5 - самый удачный день для отдыха с друзьями. В начале недели избегайте выяснения отношений с начальством.



**ВЕСЫ**

Попробуйте посмотреть на свои отношения с близкими со стороны. Может, вы слишком придирчивы? В выходные есть риск отравления. Поберегите желудок от подозрительных блюд и напитков.



**СКОРПИОН**

Путешествие, в которое вы можете отправиться, пройдет успешно. Если останетесь дома, то займитесь завершением текущих дел.



**СТРЕЛЕЦ**

Найдете неожиданное покровительство и поддержку особы женского пола. А со своими чувствами стоит разобраться. Прислушайтесь к голосу разума.



**КОЗЕРОГ**

Придется много сил потратить на решение проблем прошлого, которые дадут о себе знать с новой силой. Осторожнее с романами на стороне - рано или поздно все становится явным.



**ВОДОЛЕЙ**

Для решения рабочих вопросов удачен конец недели. Но важные встречи лучше перенести. 6-7-го есть шанс удачно заработать.



**РЫБЫ**

На работе вас ожидают не только проблемы, но и успех. Сейчас вы в прекрасной форме. Но смотрите, чтобы ваша активность не переросла в агрессивность.



## Конкурс сучасных прыпевак

***

А мы с милою любились,
Обнимались горячо.
Она мне сломала руку,
Я ей вывихнул плечо.

***

А моя жена — стряпуха,
Варит суп из кубиков.
А от этих кубиков
Можно врезать дубика.

***

Полюбила я Алешу
Черненького, кажется.
А он, рыжая собака,
Гуталином мажется.

***Ирина Иванова***

***

Хто на Свіцязь,
Хто на Нарач,
А хто на Канары.
Ну, а мне —
хаця б на нашу
Прыгажуню Шчару.

***

Ой, дзяўчаты, не бярыце
Ў адпачынак мужыкоў,
Будуць з вамі мужыкі —
Пахудзеюць кашалькі.

***Святлана Болцік***

***

Побывала в зоопарке,
Видела тушканчика.
Просто вылитый
мой милый
После двух стаканчиков.

***Алина Скробутан***

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Працягваецца конкурс сучасных прыпевак. Чакаем ад вас новых твораў. Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. *Пішыце!***

# СТАРТУЕ НОВЫ ФОТАКОНКУРС

**Паважаныя чытачы! Наша газета пачынае для вас новы фотаконкурс, які будзе праходзіць па трох намінацыях:**

**"Летняя прыгажуня",**
**"Мама, тата, я — дружная сям'я",**
**"Мы адпачываем".**

Спонсарам фотаконкурсу з'яўляецца слонімская фірма "Кодак-Люкс".

Умовы яго вельмі простыя. Вы дасылаеце ці прыносіце ў рэдакцыю (вул. Я.Купалы, 5) каляровыя фотаздымкі да адной з трох названых намінацый. Здымкі павінны быць зроблены ў аддзелах фірмы "Кодак-Люкс", якія знаходзяцца ў слонімскіх магазінах "Ваенторг", "Дружба", "Юбілейны" і "1000 дробязей". Фотаздымкі павінны быць якаснымі і арыгінальнымі, лепшыя з іх будуць апублікаваны ў "Газеце Слонімскай". Абавязкова ўказвайце сваё прозвішча і імя, адрас і тэлефон. А таксама раскажыце пра сябе, пра вашу сям'ю, пра тое, дзе і як вы адпачывалі.

Пасля таго, як ваша фота будзе апублікавана ў газеце, у любы зручны для вас дзень можаце атрымаць у рэдакцыі бясплатна каляровую фотаплёнку (з сабою мець пашпарт). Акрамя гэтага, восенню, калі будуць падводзіцца вынікі конкурсу, пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы ад "Кодак-Люкс" і ад іншых слонімскіх фірм.

***Так што фатаграфуйцеся і станавіцеся ўдзельнікамі конкурсу. Лічыце, што сёння ён ужо стартаваў. Поспехаў вам і ўдачы!***

**Журы конкурсу**



**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Янушэвіч Таццяна
Юрчык Раман
Радзенка Дар'я
Бірук Міхаіл
Гіль Ангеліна
Вянсковіч Ганна
Ахраловіч Аліна
Рабкоў Дзмітрый
Альшэўская Аксана
Азарэвіч Яўгенія

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**

Трухан Святлана і Ганчарык Ігар
Корнева Кацярына і Казлоў Павел
Ляўшня Таццяна і Бякета Аляксандр
Квачун Святлана і Кохан Валерый
Пелец Вольга і Роля Андрэй

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

†

| | |
|---|---|
| **Гоманава** Алена Паўлаўна | 1910 г.н. |
| **Персіянцаў** Мікалай Фролавіч | 1927 г.н. |
| **Грыцкоў** Сяргей Уладзіміравіч | 1959 г.н. |
| **Смірнова** Соф'я Мікалаеўна | 1931 г.н. |
| **Трагуб** Лідзія Мікітаўна | 1923 г.н. |
| **Францаў** Аляксандр Гардзеевіч | 1912 г.н. |

†

Выказваем шчырую ўдзячнасць дырэктару Слонімскага лясгаса, адміністрацыі, прафкаму і ўсяму калектыву лясгаса, суседзям, сябрам і знаёмым, якія падтрымалі нас у цяжкую хвіліну, прынялі ўдзел і дапамаглі ў пахаванні дарагога сына, бацькі, мужа і брата Сяргея Уладзіміравіча **Грыцкова**.

**Сем'і Грыцковых, Цупрыкаў**

## КРОССВОРД *от Владимира ВАШУТЫ*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 3**. Летняя пристройка к зданию. **8**. Пустыня в Южной Америке. **9**. Порода овец с белой тонкой шерстью. **12**. Нечистая сила. **14**. Сосуд для цветов, фруктов. **16**. Полудрагоценный камень. **17**. Театральное объявление о полной продаже билетов. **18**. Однообразный раскатистый звук. **19**. Столица Адыгейской автономной области. **30**. Вид керамики. **31**. Город в Гродненской области. **33**. Разногласие, ссора, вражда. **36**. Название первой буквы греческого алфавита. **37**. Рыба семейства карповых. **42**. Спортивная площадка. **44**. Роман М.Ауэзова. **46**. Штат в США. **49**. Склад оружия и боеприпасов. **50**. Короткая ременная плеть. **51**. Оперная трилогия С.И.Танеева.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Специалист на флоте. **3**. Химический элемент. **4**. Актриса театра и кино, народная артистка СССР. **5**. Химическое соединение азота с водородом. **7**. Столица республики Шри-Ланка. **11**. Древнескандинавское народное сказание. **13**. Исторически сложившаяся группа людей. **17**. Звезда в созвездии Орла. **20**. Французский математик и физик XVII века. **23**. Денежная единица ряда европейских стран. **25**. Старинная немецкая монета. **28**. Город в Индии. **29**. Женское имя. **32**. Птица отряда буревестников. **34**. Отдел математики. **35**. Наружная часть колеса. **38**. Композитор, автор балета "Жизель". **39**. Работница младшего медицинского персонала, ухаживающая за тяжелобольными. **40**. Прозрачное вещество, получаемое путем плавления. **41**. Русская народная пляска.

**ПО ДУГАМ: 2**. Стройное соединение нескольких музыкальных звуков различной высоты. **6**. Линейный корабль. **10**. Река во Франции. **15**. Изобретатель акваланга. **21**. Музыкально-драматическое произведение. **22**. Порода собак. **26**. Профессиональный наездник. **27**. Лицевая сторона здания. **43**. Спутник Марса. **45**. Притон преступников, развратников. **47**. Нижний ярус лож на уровне партера. **48**. Вид художественной литературы.

**ПО ОКРУЖНОСТИ (по часовой стрелке): 24**. Мероприятия, направленные на предупреждение чего-нибудь нежелательного.

***Из букв, отмеченных в сетке кроссворда, составьте известную пословицу.***



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№26)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 5**. Бакалея. **6**. Элла. **8**. "Нора". **11**. "Парма". **12**. Инна. **13**. Рак. **14**. Икар. **16**. Донжон. **18**. Аист. **23**. Глашатай. **25**. Амнистия. **26**. Кол. **27**. Амазонка. **28**. Оратория. **31**. Град. **33**. Понева. **35**. Зябь. **36**. Вор. **38**. Рота. **39**. Склон. **40**. Река. **42**. Гиря. **43**. Генерал.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Арба. **2**. Диктатор. **3**. Вельможа. **4**. Боян. **6**. Эфир. **7**. Лена. **9**. Одр. **10**. Арка. **15**. Алабама. **17**. Номарх. **19**. История. **20**. Панов. **21**. Майкоп. **22**. Пинта. **24**. Хор. **29**. Анаконда. **30**. Автограф. **32**. Двор. **34**. Кони. **35**. Заря. **37**. Рок. **41**. Агат. **42**. Глеб.

